# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1993
ВЕРАСЕНЬ
30
ЧАЦВЕР
№ 185 (620)
Цана
10 рублёў


## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

*ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ*

### ПИКЕТИРОВАНИЕ СТАНЕТ ТРАДИЦИЕЙ?

**Вечером 28 сентября прошло очередное пикетирование здания посольства Российской Федерации членами Славянского Собора «Белая Русь».**

**Около 20 человек протестовали против «преступных действий Ельцина и его соратников». Собравшиеся заверили корреспондента РИДа, что подобные акции у Российского посольства будут проводиться еще не раз.**

### ☐ У МІНГАРСАВЕЦЕ

Адбылася сустрэча старшынь пастаянных дэпутацкіх камісій на чале з намеснікам старшыні Мінгарсавета сп. А.В.Гурыновічам з дэлегацыяй парламентарыяў і дэпутатаў органаў мясцовага самакіравання шведскай акругі Кронаберг (паўднёва-ўсходняя Швецыя).

Сп. Гурыновіч расказаў гасцям аб жыцці горада, рабоце Мінгарсавета. У ходзе гутаркі было адзначана супадзенне праблем двух гарадоў. Але ў Мінска існуюць і спецыфічныя праблемы, у прыватнасці, з забеспячэннем цяплом. Госці азнаёміліся з Мінскам, наведалі Мінскі мотавелазавод, выставу «1000 дробязей», Гандлёва-прамысловую палату Беларусі і выказаліся за развіццё ўзаемавыгадных сувязей дзвюх краін.

* * *

На чарговым пасяджэнні Каардынацыйная Рада ўдакладніла фармулёўкі пытанняў, якія выносяцца на XIII сесію Мінгарсавета, разгледзела ступень іх падрыхтаванасці да разгляду сесіяй. Прапанаваны асобныя пытанні разгледзець у першую чаргу. Стан спраў з дзіцячымі дашкольнымі ўстановамі ў горадзе выклікае непакой, бо колькасць іх скарачаецца. Таму сесіі прапанавана звярнуцца з заканадаўчай ініцыятывай у Вярхоўны Савет аб аднясенні сум мэтавага збору фінансавання ведамасных дашкольных устаноў на сабекошт вытворчасці, работ, паслуг. А ў далейшым ведамасныя дзіцячыя сады перадаць райвыканкамам. Былі выказаны іншыя падыходы да вырашэння праблемы. Пытанне будзе дапрацоўвацца ў дэпутацкай камісіі.

Рада разгледзела, як выпраўляюцца раней адзначаныя недахопы ў рабоце метрапалітэна.

**Міхаіл ВАЛЬКОЎСКІ.**

### МИНСК ЗАДЕРЖАЛ ДЫХАНИЕ. НАВЕРНОЕ, ДО ЗИМЫ

*В последние дни Минск буквально задыхается в дыму осенних костров.*

*Как стало известно корреспонденту РИДа, специальное автохозяйство городской санэпидем–станции находится на голодном топливном пайке. Вместо 217 тонн горючего в августе было получено лишь 110, и в сентябре его получат тоже лишь 50 процентов. Поэтому за первые 15 дней осени Минск не убирался на протяжении девяти дней. Усилий санэпидемстанции еле хватает на уборку бытовых отходов, не говоря уже об осеннем листопаде.*

*В такой ситуации единственным помощником в уборке остается огонь. Многих дворников и уборщиков сдерживает пока только угроза штрафа за сжигание мусора в пределах города.*

**Ирина ЗАЙЦЕВА.**

### ВУЧОНЫЯ ПРАПАНУЮЦЬ: ЖЫЦЦЁ ПАСЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ

Творчы калектыў вучоных Беларусі распрацаваў новую канцэпцыю пражывання насельніцтва ў раёнах, якія падвергліся радыеактыўнаму забруджванню ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Яны маюць намер прадставіць яе на разгляд урада. На прэс-канферэнцыі з журналістамі, што адбылася, кіраўнік гэтай групы загадчык кафедры радыёхіміі Белдзяржуніверсітэта І.Я.Пятраеў і іншыя спецыялісты далі неабходныя тлумачэнні.

Вучоныя прапаноўваюць арыентавацца на эквівалентную дозу абпраменьвання 0,1 бэра ў год. і адпаведна з гэтай нарматыўнай дозай устанавіць тэрытарыяльны падзел Беларусі на тэрыторыю назірання, у якой жыццё і працоўная дзейнасць насельніцтва можа праходзіць без аніякіх абмежаванняў (калі доза складае меней 0,1 бэра); правядзення абарончых мерапрыемстваў (доза ад 0,1 да 0,5 бэра ў год); зону адсялення (дадатковае абпраменьванне ад 0,5 бэра і вышэй). Вучоныя лічаць, што пры выбары ахоўных мер трэба лічыцца з асаблівасцямі фарміравання доз абпраменьвання, неабходна таксама ўлічваць эканамічныя і сацыяльныя фактары ў рэгіёнах.

І.Я.Пятраеў, кажучы аб адносінах Вярхоўнага Савета да прадстаўленай канцэпцыі, падкрэсліў, што дэпутаты настойваюць на зніжэнні ўзроўню гадавога абпраменьвання больш з палітычных меркаванняў, таму, лічыць ён, да чарговых выбараў гэтая канцэпцыя наўрад ці будзе прынята ўрадам.

— Урад можа прыняць яе альбо не прыняць. Аднак уплываць на яго мы не можам, — сказаў І.Я.Пятраеў.

**Ларыса КОКТЫШ.**

### СООБЩЕНИЕ

Президиум Заводского районного Совета народных депутатов извещает депутатов и жителей района о том, что место проведения очередной 14-й сессии районного Совета народных депутатов XXI созыва перенесено. Сессия будет проходить 6 ОКТЯБРЯ с.г. в помещении Заводского РОВД (ул.Кабушкина, 36, 4 этаж. Проезд троллейбусами №№ 16, 17, автобусами №№ 2, 22, 26, 59).

Повестка дня:

**О состоянии и мерах по укреплению правопорядка, профилактике преступлений и правонарушений, координации в этой работе всех заинтересованных предприятий и организаций.**

*Начало работы сессии в 10.00.*

Просьба к жителям района вносить свои предложения по рассматриваемым вопросам по адресу: **220026, г.Минск; ул.Жилуновича, 17 или по телефонам: 45–15–32, 45–13–98.**

## ■ ЭХО СОБЫТИЯ

### ГОСПОЖА КАРЕН БЭТС – ДЕТЯМ БЕЛАРУСИ

**Галина ГОЛОВАТАЯ. Фото агентства РИД.**

**НА ДНЯХ вдова Фулганга Бэтса из Германии при участии «Ситихоуп Интернейшнл» передала трем детским больницам современные медицинские микроскопы. Их получили Детский гематологический центр, детские больницы № 4, № 2.**

**В начале семидесятых годов два немецких водителя большегрузных автомобилей из Бремена создали в Германии свое небольшое транспортное предприятие. За несколько лет оно выросло в крупнейшую транспортную фирму «СБ–транспорт», которая специализируется на торгово–сухопутных перевозках.**

**Владельцем и управляющим этой фирмы был Фулганг Бэтс. Полтора года назад он впервые приехал в Беларусь для организации поставок гуманитарной помощи из США.**

**Гуманитарные грузы были доставлены в детские дома, сады, церкви. Разработана новая программа помощи детям, пострадавшим от чернобыльской катастрофы. Но в 1992 году по дороге в Беларусь автомобиль, за рулем которого был господин Бэтс, попал в аварию...**

**Жена Фулганга Бэтса госпожа Карен стала его преемницей, владелицей фирмы «СБ–транспорт». Она не забыла желания мужа всегда помогать Беларуси.**

**Медики гематологического центра горячо благодарили за дорогой подарок. С его помощью теперь можно определить, связана ли болезнь лейкемия с чернобыльской катастрофой.**

**НА СНИМКАХ: госпожа Карен Бэтс в гематологическом центре.**

## ■ У КАЛІДОРАХ УЛАДЫ

### АД ІЛЬГОТ І Ў АДСТАЎЦЫ НЕ СХАВАЕШСЯ

**Алесь КНЯЗЮК, БелаПАН.**

БелаПАН сталі вядомы звесткі пра новыя льготы, прадастаўленыя Старшыні Вярхоўнага Савета і Старшыні Савета Міністраў, якія знаходзяцца ў адстаўцы, а таксама членам іх сем'яў, што пражываюць з імі. Згодна з нядаўняй Пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі № 2502-XII, пункт 2 Пастановы гэтага органа ад 25 чэрвеня 1991 года «Аб забеспячэнні, абслугоўванні і ахове Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь» пасля часткі першай дапоўнены наступным тэкстам:

«Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, якія знаходзяцца ў адстаўцы, карыстаюцца правам на дадатковую жылую плошчу ў памеры да 15 кв. метраў. Ім і членам іх сем'яў, што пражываюць з імі, прадастаўляецца 50-працэнтная скідка па аплаце жылой плошчы, а таксама за карыстанне ацяпленнем, вадой, каналізацыяй, газам, электраэнергіяй, тэлефонам (акрамя міжгародніх і міжнародных перагавораў).

Адпускаемыя пенсіянеру і членам яго сям'і, што знаходзяцца на яго ўтрыманні, лякарствы па рэцэптах урачоў паліклінік, за якімі яны замацаваны, аплачваюцца імі ў памеры 20 працэнтаў кошту:., прадастаўляецца права бясплатнага пратэзавання ўсіх відаў (за выключэннем пратэзаў з каштоўных металаў). Такім жа правам карыстаецца яго жонка, якая не знаходзіцца на яго ўтрыманні.

Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, якія знаходзяцца ў адстаўцы, прадастаўляецца права на бясплатны праезд усімі відамі гарадскога пасажырскага транспарту (за выключэннем таксі)».

Паводле звестак БелаПАН, атрыманых з парламенцкіх колаў, гэтыя дапаўненні былі зроблены па ініцыятыве аднаго з былых Старшынь Вярхоўнага Савета Беларусі.

### КАЛЯНДАР

**Чацвер, 30 верасня.**

*СОНЦА — 6.08/17.50.*
*Даўжыня дня — 11.42.*
**МЕСЯЦ** — *поўня 19.54, захад 4.04/ўсход 15.59.*

**ІМЯНІНЫ**

*Сёння:*

*Праваслаўныя — мучаніц Веры, Надзеі, Любові і маці іхняй Сафіі (каля 137 г.).*

**Каталіцкія** — *Гэраніма, Фэліцы.*

*Заўтра:*

*Праваслаўныя — Арыядны, Ірыны, Соф'і, Яўмена.*

**Каталіцкія** — *Дануты, Тэрэзы; пачатак ружанцовых набажэнстваў.*

## ■ ПАРТАКТЫЎ

### ДСПС – ЗА АДСТАЎКУ ШУШКЕВІЧА...

**Заяву народнаму дэпутату Рэспублікі Беларусь старшыні Мінскага гарадскога Савета А.Герасіменку накіравалі яго выбаршчыкі — удзельнікі руху «За дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць». У ёй выказваецца просьба да Мінгарсавета і асабіста спадара Герасіменкі асудзіць падтрымку С.Шушкевічам дзеянняў Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Б.Ельцына.**

**Дэпутатам Мінгарсавета прапанавана разам з ДСПС патрабаваць ад народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь на бліжэйшай сесіі перавыбраць Старшыню Вярхоўнага Савета і адмяніць рашэнне аб увядзенні інстытута прэзідэнцтва ў Беларусі.**

**Матывіроўка: як паказалі падзеі ў Расіі, пост прэзідэнта ва ўмовах Савецкай улады неабходны для расправы з ёй.**

### ...А БЗВ – КЕБІЧА

Напярэдадні святкавання Дня беларускай вайсковай славы 8 верасня Савет Міністраў прыняў заяву, у якой адмежаваўся ад гісторыі свайго народа і груба абразіў ініцыятараў правядзення свята і яго ўдзельнікаў. У прыватнасці, у Саўміне прагучала беспадстаўная хлусня аб нібыта «антырускіх і антырасейскіх лозунгах», пад якімі праводзіцца свята 8 верасня, і дэзінфармацыя аб яго забароне. З гэтай нагоды БЗВ вымушана звярнуцца ў суд, каб абараніць гонар і годнасць арганізацыі, усіх удзельнікаў свята ад беспадстаўных абвінавачванняў з боку Саўміна. Аб гэтым гаворыцца ў заяве, прынятай днямі Беларускім згуртаваннем вайскоўцаў.

Выканаўчая рада БЗВ адзначае, што незразумелае стаўленне Савета Міністраў да свайго народа і дзяржавы робіцца сістэмай, аб чым яскрава сведчаць і апошнія заявы чыноўнікаў аб неабходнасці канфедэрацыі з Расіяй. Справа Вярхоўнага Савета надалей падзяляць адказнасць за становішча ў Беларусі з урадам, які адмаўляе сваёй краіне і народу ў дзяржаўнасці, які прывёў нашу краіну да энергетычнага крызісу, але Выканаўчая Рада БЗВ вымушана адзначыць, што як арганізацыя-ініцыятар падпісання Антыкрызіснага пагаднення яна будзе выступаць за скліканне пазачарговага пасяджэння Антыкрызіснага камітэта для пераабрання яго старшыні і адначасова Старшыні Савета Міністраў В.Кебіча.

«У спадара Кебіча няма маральнага права займаць гэтую пасаду, — адзначаецца ў дакуменце, — паколькі апошнія дзеянні Старшыні Савета Міністраў, асабліва супрацьлеглыя выказванні наконт лёсу Беларусі і СНД у кантэксце апошніх падзей у Расіі, а таксама хлуслівая заява Саўміна напярэдадні 8 верасня, выглядаюць як непрыстойныя і нявартыя кіраўніка ўрада суверэннай еўрапейскай дзяржавы ».

**Участники ДСПС Минска потребовали от должностных лиц Республики Беларусь принятия необходимых мер для обеспечения подписки на все периодические издания, выходящие в России и в других странах СНГ, а также для беспрепятственной доставки подписчикам выписанных газет и журналов.**

*В обращении говорится, что право граждан Республики Беларусь на получение информации не должно быть нарушено. Границы и разного рода препятствия в этой области не на пользу Беларуси и ее гражданам.*

* * *

*9 кастрычніка ў Доме літаратара адбудзецца прэзентацыя аб'яднання дэмакратычных сіл Беларусі «Вясна–94». Выступяць ініцыятары яго стварэння, вядомыя палітыкі, народныя дэпутаты.*



## ■ ВЫСТАВЫ

### СІЛА ДРОБЯЗЕЙ – У ІХ КОЛЬКАСЦІ

**Міхаіл ВАЛЬКОЎСКІ, «ДВ».**

Пасля летніх адпачынкаў дзелавая актыўнасць, як правіла, павялічваецца. Восеньская чарада кірмашоў і выстаў пачалася ў нашым горадзе. Сваё пачэснае месца сярод іх па праву займае міжнародная універсальная выстава «1000 дробязей», што пачалася ўчора.

Гэта сапраўдны агляд дасягненняў малога і сярэдняга бізнесу. У час адкрыцця старшыня Мінгарсавета сп. А.М.Герасіменка і Філіп Нек — начальнік дэпартамента Міжнароднай арганізацыі працы выказалі спадзяванне, што чацвёртая па ліку выстава пад гэтай назвай дасць прыкметны імпульс развіццю гандлёва-эканамічных сувязей Беларусі з блізкім і далёкім замежжам.

Значная колькасць удзельнікаў — беларускія дзяржпрадпрыемствы. Шмат — з Расіі, Украіны, Польшчы, краін Балтыі і іншых.

На выставе шмат новых тавараў. Так, завод пускавых рухавікоў з Гомеля прадстаўляе новы дызельны рухавік магутнасцю 6-8 конскіх сіл для фермерскіх гаспадарак. Увагу прыцягвае і плаваючы нож для рыбакоў і паляўнічых гэтага ж завода. Вытворчае аб'яднанне БелВАР прадстаўляе новы кухонны працэсар «Мэта», які робіць на кухне ўсё, электрычную шафу-грыль «Свіслач» (можа замяніць печ ЗВЧ, а цана значна ніжэй).

На стэндах Мінскага маторнага і падшыпнікавага заводаў шмат цікавых навінак для аўтааматараў. Вынікі канверсіі можна ўбачыць сярод прадукцыі МВА «Калібр» (нікель-лантанавыя акумулятары і зарадныя прыстасаванні да іх), завода «Дыяпраектар» з Рагачова (паляўнічыя начныя прыцэлы з лазернай падсветкай), Мінскага электрамеханічнага завода (бытавы прас «Яніна»), шматтарыфны лічыльнік электраэнергіі.

Як заўсёды, на «1000 дробязей» шмат адзення, абутку, рэчаў для дому, лецішча. Цікавых тавараў шмат таксама і ў малых і сумесных прадпрыемстваў. Трэба адзначыць, што якасць вырабаў і іх разнастайнасць значна павялічылася. І гэта дае надзею, што з цягам часу айчынныя тавары не адрозніш ад замежных.

## ГРАФІК прыёму грамадзян старшынямі пастаянных дэпутацкіх камісій Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў у кастрычніку 1993 г.

*Прыём адбываецца ў Мінгарсавеце па адрасу: пр-т Ф.Скарыны, 8, пакой № 108*

| Прозвішча, імя і імя па бацьку старшыні камісіі | Назва камісіі | Дата | Час прыёму |
|---|---|---|---|
| КУЗЬМІЧ Вольга Аляксандраўна | камісія па выхаванні і адукацыі | 04.10.93 | 10.00-13.00 |
| ЧАРНЯЎСКІ Ігар Мяфодзьевіч | камісія па культуры і захаванні гісторыка-культурнай спадчыны | 04.10.93 | 10.00-13.00 |
| ЧЫЛЕК Тадэвуш Аляксандравіч | камісія па спажывецкаму рынку | 05.10.93 | 10.00-13.00 |
| КОБАСА Міраслаў Уладзіміравіч | камісія па льготах і прывілеях | 05.10.93 | 15.00-18.00 |
| МАРОЗАЎ Валянцін Іванавіч | па фізічнай культуры, масаваму спорту і турызму | 08.10.93 | 10.00-13.00 |
| ЯЦКЕВІЧ Валерый Мікалаевіч | па справах моладзі | 08.10.93 | 15.00-18.00 |
| АНДРЫЯНАВА Вера Дзмітрыеўна | па навуцы, навукова-тэхнічнаму прагрэсу і інфарматыцы | 11.10.93 | 10.00-13.00 |
| ХАРЛАП Андрэй Уладзіміравіч | па ахове правапарадку і пытаннях барацьбы са злачынствам | 14.10.93 | 10.00-13.00 |
| КАРАГІН Уладзімір Мікалаевіч | па эканамічнаму развіццю і бюджэту | 14.10.93 | 15.00-18.00 |
| ТАРЧЭЎСКІ Мікалай Мікалаевіч | мандатная камісія | 15.10.93 | 10.00-13.00 |
| КАЛЯДКА Аляксандр Васільевіч | па пытаннях работы Саветаў і развіццю самакіравання | 15.10.93 | 10.00-13.00 |
| МУХТАСАРАЎ Рым Рыгоравіч | па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва | 15.10.93 | 15.00-18.00 |
| ЛАПУНІН Альберт Паўлавіч | па энергетыцы, транспарту, дарожнай гаспадарцы і сувязі | 19.10.93 | 15.00-18.00 |
| ОБРАЗАЎ Міхаіл Яўгенавіч | па праблемах вынікаў катастрофы на ЧАЭС | 20.10.93 | 15.00-18.00 |
| КАВЫЗІН Уладзімір Іванавіч | па ахове здароўя | 26.10.93 | 10.00-13.00 |
| ФРЫДЛЯНД Міхаіл Яўсеевіч | па экалогіі | 26.10.93 | 15.00-18.00 |
| ПЛІСКА Міхаіл Казіміравіч | па справах інвалідаў | 27.10.93 | 15.00-18.00 |
| МАЗГО Алег Паўлавіч | па горадабудаўніцтву, дойлідству і будаўнічаму комплексу | 28.10.93 | 10.00-13.00 |
| БАГАМОЛЬСКІ Аляксей Ягоравіч | па жыллёвай палітыцы, камунальнай гаспадарцы і добраўпарадкаванні | 28.10.93 | 15.00-18.00 |

**ЗАЎВАГА: 1. У выпадку адсутнасці старшыні камісіі прыём вядзе яго намеснік.**
**2. Прыём вядзецца па праблемах, якія датычацца кампетэнцыі дадзенай камісіі.**
**3. Прыём вядзецца на аснове папярэдняга запісу. У спіс уключаецца не больш за 20 чалавек.**
**Тэл. 27–09–18, тэлефанаваць з 10.00 да 13.00 і з15.00 да 18.00.**

## ■ СПОРТ-ПАНОРАМА «ДВ»

### БАСКЕТБОЛ

Бесспорно, главное событие сегодняшнего дня — матч чемпионата Европы между РТИ и «Барселоной». Он состоится во Дворце спорта, и, думается, свободных мест в зале не будет. Причем все, даже самые заядлые оптимисты, понимают — шансов у минчан практически нет. Но ведь знаменитая «Барса» в нашем городе впервые, и кто знает — когда еще будет. Испанцы не скрывают, что в этом турнире они нацелены только на победу, тем более, что состав их в межсезонье значительно укрепился. Пришли два американца — мощный форвард из клуба НБА «Милуоки Бакс» Фред Робертс и центровой (он, естественно, не может не быть внушительным) Тони Масенбург из Малаги. Ну, и конечно же, остальные испанцы — парни не промах. Чего стоят наши? Увидим...

### ФУТБОЛ

Наличие телевизоров в домах болельщиков избавляет, пожалуй, меня от необходимости еще раз пересказывать то, что они в своих «ящиках» видели. А кое-кто, возможно, и на стадионе. И даже не за воротами, а на нормальных «буржуйских» местах. Для тех же, кто во время телетрансляции уже спал, сообщаем: «Динамо» — «Вердер» — 1:1, хотя наши сыграли на сей раз очень прилично.

Утешимся же тем, что впервые после «завоевания» суверенитета видели приличную европейскую команду, которая наглядно показала нам, что эволюция белорусского футбола идет все-таки не в ту сторону. Огорчаться еще нам придется, по-видимому, долго, ибо некоторых из динамовцев, отнюдь не самых слабых, мы в команде вскоре не увидим. А когда появятся, хотя бы такого же уровня, игроки — кто сегодня скажет?

**Иван КАХНОВИЧ.**

